Наш адрас у Інтэрнеце: www.pahonia.promedia.minsk.by

# ПАГОНЯ

Чацвер
1 сакавіка 2001 г.
№ 9 (505)
Кошт 85 рублёў

## Пракуратура, нарэшце, адчула гора бацькоў?

**Пасля публікацыі ў ПАГОНІ шэрагу матэрыялаў пра мінулагоднія забойствы ў Гродне маладых дзяўчатаў, следства па справе, урэшце, скранулася з месца.**

Адпаведна словам Святланы Шор, маці забітай Вольгі Шор, справа з «самазабойства» ўжо перакваліфікаваная пракуратурай у «наўмыснае забойства». Забойствы чатырох дзяўчатаў - Вольгі Шор, Вольгі Гарашчук, Люды Кодзік і Юліі Яцышынай - аб'ЯДнаныя ў адну справу, якую вядзе следчы па надзвычайных справах Сяргей Башун. Да следства актыўна далучыўся КГБ. Бацькі забітых дзяўчатаў атрымалі ліст ад Віктара Шэймана, дзе заяўлена, што справа знаходзіцца на кантролі Генеральнай пракуратуры Беларусі.

Святлана Шор адзначае, што змянілася і стаўленне следчых да справы:

- Аднак прайшло ўжо шмат часу - 11 месяцаў. Мне хочацца спадзявацца, што забойцы нашых дзяўчатаў будуць знойдзеныя. Я бачу, што следчыя стараюцца. А як там будзе далей - Бог яго ведае.

## Школьны аўтобус ледзь не стаў душагубкай

**Надзвычайнае здарэнне адбылося 27 лютага ў Ваўкавыскім раёне Гарадзенскай вобласці. У 7.50 раніцы аўтобус, які належыць племзаводу «Рось» перавозіў у Росскую школу з вёскі Ядрыхавічы 47 дзяцей. З прычыны неспраўнасці выхлапной сістэмы ў аўтобусе, дзеці адчулі сябе кепска. Некаторыя пачалі страчваць прытомнасць.**

Паводле інфармацыі прэс-цэнтра УУС аблвыканкама, на працягу некалькіх гадзін у бальніцу горада Ваўкавыска былі дастаўленыя 18 школьнікаў. Трое з іх у цяжкім стане трапілі ў рэанімацыю. Па стану на 18 гадзін 27 лютага стан дзяцей нармалізаваўся і яны былі пераведзеныя з рэанімацыі. Урачы адзначаюць, што жыццю дзяцей нічога не пагражае.

Па факту атручвання дзяцей вядзецца следства.

**Павал Мажэйка**

## Ці вызначыць экспертыза вінаватых?

**Справа пра збіццё ў Мастоўскім РАУС непаўналетняга Максіма Хандогі (гл. ПАГОНЮ N6), у выніку чаго яму была выдалена селязёнка, перададзена ў Гарадзенскую абласную пракуратуру.**

За тыя тры тыдні, як справа знаходзілася ў Мастах, пракурор раёна Юрый Васілеўскі так і не змог правесці допыт падазроных міліцыянтаў, спасылаючыся на службовае расследаванне, якое праводзілі міліцэйскія органы. У Гродне прайшла вочная стаўка пацярпелага і падазроных. Максім апазнаў тых, хто дапытваў яго ў міліцыі. Міліцыянты не прызнаюць сябе вінаватымі, а настойваюць, што пашкоджанні хлопцу былі нанесеныя ў байцы на тры дні раней. Як пойдзе далей следства, будзе залежаць ад вынікаў медычнай экспертызы.

**Язэп Палубятка**




**1, 2 сакавіка** - воблачна, з праясненнямі, часам - снег, вецер паўночны, 7-12 м/с. Тэмпература паветра **1 сакавіка** ўначы -2...-7, удзень +1...+4; **2 сакавіка** ўначы +1...-4, удзень +3...-2.

# Аднагалосна і безальтэрнатыўна!

**У Гродне створаны Каардынацыйны савет па падтрымцы сацыяльна-эканамічнага курсу Аляксандра Лукашэнкі. У яго ўвайшлі 19 кіраўнікоў абласных структураў палітычных партыяў, грамадскіх арганізацыяў, сярод якіх - старшыня Аграрнай партыі Эдуард Бяляеў, старшыня Камуністычнай партыі Георгій Гірас, старшыня партыі Народнай Згоды Іван Крэнь, бэпэсэмаўцы, афганцы, ветэраны і, нават, Беларускі дзіцячы фонд. Старшынём Каардынацыйнага савета аднагалосна і на безальтэрнатыўнай аснове быў абраны Эдуард Бяляеў.**

З размовы са спадаром Бяляевым мы зразумелі, што створаны савет яшчэ не вызначыўся са сваёй мэтай.

- Мы збярэмся з адным чалавекам і папрацуем над планам дзейнасці, пасля я ўсё вам раскажу, - адзначыў спадар Бяляеў.

Эдуард Бяляеў запэўніў, што ініцыятарам стварэння савета па падтрымцы Лукашэнкі стала не нейкая асобная арганізацыя, а ўсе 19 разам:

- Гэта не аблвыканкам усё ініцыяваў, як вы, напэўна, думаеце.

Увайсці ў склад членаў Каардынацыйнага савета можа любая арганізацыя, якая падтрымоўвае ўнутраную і знешнюю палітыку, праводзімую Лукашэнкам.

**Павал Мажэйка**



# Для падтрымкі Лукашэнкі паклікалі нават Ірэну Шылконь

**У Гродне ўладамі створаны абласны аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні II Усебеларускага народнага сходу, абвешчанага Аляксандрам Лукашэнкам. Выконваючы абавязкі старшыні аблвыканкама Уладзімір Саўчанка прызначыў старшынёй аргкамітэта Марыю Бірукову, намесніцу старшыні аблвыканкама, якая курыруе пытанні ідэалогіі.**

II Усебеларускі сход мае адбыцца 18 траўня 2001 года ў Менску. Склікаўшы на яго 2,5 тысячы чалавек напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, А.Лукашэнка ў чарговы раз хоча стварыць у грамадстве ілюзію ўсенароднай падтрымкі прэзідэнта.

Гарадзенская вобласць мусіць вылучыць 350 дэлегатаў на гэты сход. Бліжэйшым часам, паводле словаў начальніка ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі і друку аблвыканкама Уладзіміра Амелькі, у працоўных калектывах распачнецца вылучэнне кандыдатаў. Канкрэтны план дзеянняў аргкамітэт распрацуе на наступным тыдні падчас першага пасяджэння.

- У камітэт былі адабраныя тыя, хто можа прынесці найбольшую карысць, - упэўнены спадар Амелька.

Акрамя чынавенства, прадстаўнікоў арміі ды міліцыі, у лік 30-ці найбольш карысных увайшлі таксамай рэктар ГрДзУ імя Я.Купалы Сяргей Маскевіч ды рэдактар газеты «Гродзенская праўда» Іосіф Багіно.

Асаблівую цікавасць выклікае тое, што ў склад аргкамітэта ўключаная старшыня Савета аб'яднання прафсаюзаў вобласці Ірэна Шылконь. Спадарыня Шылконь узначальвае гарадзенскую арганізацыю Федэрацыі Прафсаюзаў Беларускай (ФПБ), старшыня якой - Уладзімір Ганчарык - стварае сёння апазіцыю А.Лукашэнку і збіраецца балатавацца ў прэзідэнты Беларусі. Кіраўнікі ФПБ, аднак, паставіліся да ўдзелу сваёй падначаленай у новай акцыі ўлады нармальна.

- Я не ўспрымаю гэта, як трагедыю. Усё залежыць ад таго, якую функцыю Ірэна Шылконь будзе выконваць у аргкамітэце. Калі яна будзе рэалізоўваць рашэнні трэцяга з'езду прафсаюзаў, то гэта цалкам прымальна. Іншая справа, калі яе ўдзел у аргкамітэце абумоўлены жаданнем «патрафіць» уладзе, - пракаментаваў гэты момант Франц Вітко, першы намеснік старшыні ФПБ.

На працягу мінулага тыдня аналагічныя аргкамітэты былі ўтвораныя ва ўсіх гар- і райвыканкамах Гарадзенскай вобласці.

**Марыя Тапілеўская**

## Ідзе Вясна пераменаў?

**Снег і мароз ніяк не хочуць саступаць маладому вясноваму сонейку. Так, прырода і каляндарныя дні ўжо даўно разышліся ў часе. І ўсё ж дагэтуль дата 1 сакавіка прымушае нас салодка заплюшчыць вочы і глыбей уцягнуць паветра, узгадваючы свежы пах першага веснавога ліздя. Мы чакаем. Чакаем цяпла, зялёнай травы, кахання. Чакаем новага і лепшага. Чакаем пераменаў. А што, на вашу думку, прынясе нам гэтая вясна?**



**Ала Петрушкевіч, паэтка, выкладчыца ГрДзУ:**

- Пераменаў я чакаю не ўвесну, а ўвосень. Нарэшце, закончыцца ноч над нашай Беларуссю, нарэшце, будзе сонца. Думаю, вы разумееце, што я кажу пра прэзідэнцкія выбары. А ад вясны што можна чакаць? Вясною ўсё толькі нараджаецца, а ўраджай мы збіраем ўвосень. У асабістым жыцці хачу, каб мой сын Максімка быў здаровым і «найвялікшым», бо Максім - гэта найвялікшы.

**Міхаіл Бура, заслужаны трэнер Беларусі па гандболу:**

- Каб прыйшлі да ўлады разумныя людзі. Рэсурсы ў нашай краіне аграмадныя. Але няма кантролю над імі. Бо апазіцыя перашкаджае ўладзе, а ўлада - апазіцыі. А сабе б здароўя пажадаў.



**Ірына, бухгалтарка:**

- Чакаю, што паступлю вучыцца далей па сваёй спецыяльнасці - бухгалтар. А ў нашай краіне хацелася б, каб падняўся жыццёвы ўзровень. Хаця нашы людзі даволі добра выглядаюць, стараюцца прыгожа апранацца - гэта для іх своеасаблівая невялікая радасць.

**Тэльман Асланаў:**

- Не чакаю, а спадзяюся, што лепшым стане наша жыццё: заробак падвысяць, не будуць душыць падаткамі. А ўвогуле, мне з беларусамі жывецца выдатна. Я сам з Азербайджана, але ў Гродне жыву з 69 года. Цудоўны ў вас народ.



**Марыя, працуе ў бальніцы:**

- Сумняваюся, што нешта канкрэтна зменіцца ў нашай краіне. Але, канечне, спадзяюся.

**Апытвала Алеся Сідлярэвіч**

# Стратэгія адзінага кандыдата - глупства ці гульня ў паддаўкі?

**З тым, што нашы палітычныя партыі не маюць аўтарытэту ў нашых грамадзянаў, згодны амаль усе. Прызналі гэта і самі лідары партыяў. Калі б было не так, тады пра свае дамаганні на прэзідэнцкую пасаду абвесцілі б і Лябедзька, і Статкевіч, і Шушкевіч, і Вячорка, і Калякін, і гэтак далей. Але ж вельмі хочацца пабыць пры ўладзе. Вырашылі паспрабаваць утварыць аб'яднаную апазіцыю, знайсці адзінага прэтэндэнта на кандыдата. Спадар Гайдукевіч адразу зразумеў: у такім саюзе стаўку на яго рабіць ніхто не будзе. Ён памахаў «сябрам» пальчыкамі. Астатняя «аб'яднаная» апазіцыя ўжо некалькі месяцаў спрабуе вырашыць невырашальнае: назваць асобу ў якасці адзінага кандыдата і не развaліць апазіцыю.**

Я так мяркую, вось чаму.

Першае. Калі прыгадаць шляхі ўтварэння і развіцця партыяў, іхнія разборкі паміж сабой (спрабуюць з дапамогай лукашэнкаўскіх судоў разабрацца), тады спадзявацца на згоду не даводзіцца.

Другое. Калі паглядзець на атачэнне кожнай асобы з прэтэндэнтаў у адзіныя кандыдаты, тады стане зразумелым, што цёплых месцаў на ўсіх пры адным вылучэнцы не хопіць. Хто ж пажадае адмовіцца? А таму вынікае, што ідэя адзінага кандыдата - глупства.

Але давайце возьмем на веру, што адбудзецца цуд - хлопцы дамовяцца, падзеляць партфелі і выйдуць адзінай камандай з адзіным кандыдатам.

Тут самы час паглядзець на «святую тройцу», да якой дадаўся пан Казлоўскі. Я не стану пералічваць іх службовыя пасады, іх заслугі не вельмі далёкага мінулага. Я толькі заўважу, што ўсе яны - вылучэнцы старой сістэмы. Маральны багаж папаўнялі такім жа чынам, як і многія паплечнікі «бацькі».

За плячыма або іх саміх, або іх сяброў-прыхільнікаў спецыялісты «бацькі» лёгка знойдуць дастаткова кампрамата (палітычнага ці крымінальнага характару), каб без усялякіх цяжкасцяў іх «размазаць». Што і зробяць. А з гэтага ўжо вынікае, што стратэгія адзінага кандыдата - гульня ў паддаўкі. Як кажуць, куды ні кінь...

Тых, хто са мной згодныя, запрашаю на размовы з адной адзінай тэмай на парадку дня: «Што ж рабіць?». На мой погляд, стратэгія павінна быць простая: новая справа робіцца толькі новымі людзьмі. А як лічыце вы?

**Алесь Крэмень, выбаршчык**

__Ад рэдакцыі:__ **друкуючы гэты дыскусійны ліст, ПАГОНЯ спадзяецца на тое, што вы, паважаныя чытачы, не застанецеся абыякавымі да прапанаванай тэмы. Свае меркаванні на гэты конт дасылайце на адрас рэдакцыі.**

# «Малады фронт» узначаліў Вадзім Саранчукоў

**21-гадовы студэнт Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта Вадзім Саранчукоў абраны новым старшынём мясцовай арганізацыі «Маладога фронту» - самай масавай моладзевай апазіцыйнай арганізацыі ў Гарадзенскай вобласці.**

Пераабранне лідара «Маладога фронту» выклікала цікавасць сярод прадстаўнікоў палітычных партый і грамадскіх арганізацый горада. З віншавальнымі словамі на адрас Вадзіма Саранчука звярнуліся актывісты мясцовых арганізацыяў БНФ «Адраджэнне», Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады, фонду імя Льва Сапегі, Беларускай асацыяцыі журналістаў, арганізацыі «Маладая Грамада», незарэгістраванай арганізацыі «Беларуская партыя свабоды». У сваёй праграмнай прамове Вадзім Саранчукоў адзначыў, што мае намер змяніць імідж успрымання грамадскасцю «Маладога фронту» як выключна «арганізацыі вулічнага дзеяння».

Новы старшыня аддзялення таксама зазначыў, што пад яго кіраўніцтвам гарадзенская арганізацыя «Маладога фронту» возьме самы актыўны ўдзел ў падрыхтоўцы і правядзенні прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

# У Віктара Сазонава шукалі «золата партыі»

**Прэс-служба Гарадзенскай арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады распаўсюдзіла паведамленне, у якім гаворыцца, што старшыня філіі партыі Віктар Сазонаў быў затрыманы беларускімі мытнікамі 22 лютага на польска-беларускай мяжы, калі вяртаўся з Беластока з канферэнцыі, прысвечанай стратэгіі развіцця палітычных партый.**

Канферэнцыю праводзіў Нацыянальны дэмакратычны інстытут ЗША, і ўдзел у ёй узялі лідары рэгіянальных арганізацый БНФ «Адраджэнне», БСДГ, БСДП (НГ), Аб'яднанай грамадзянскай партыі ўсіх абласцей Беларусі. Віктар Сазонаў разам са старшынём гарадзенскай філіі Аб'яднанай грамадзянскай партыі Алесем Пагуляевым вымушаныя былі правесці некалькі гадзін у памяшканні мытні, дзе мытнікі два разы перагрэслі іхныя рэчы, а самі лідары партый падвергліся асабістаму дагляду. Віктар Сазонаў адзначыў, што мытнікі паводзілі сябе даволі карэктна, аднак ён лічыць, што «службовым асобам варта задумацца над сваімі функцыямі і пачаць нарэшце служыць закону».

На думку старшыні Гарадзенскай арганізацыі БСДГ, мытнікі шукалі ў яго грошы, якія ён быццам бы павінен быў атрымаць у Польшчы на вядзенне палітычнай дзейнасці.

**Павал Мажэйка**

# «Сядзяць пісцы, як гною кучкі...»

**Дзяржаўныя СМІ доўга рабілі выгляд, што не бачаць захадаў дэмакратычнай апазіцыі па вылучэнні адзінага кандыдата ад шырокай народнай плыні на пасаду прэзідэнта. Але гэты працэс стаў настолькі відавочным і «пайшоў у народ», што на вышэйшых паверхах улады занепакоіліся, далі патрэбную каманду. «Народная газета» ўзяла пад казырок...**

«Рэгіянальныя пакуты апазіцыі» - так назваў сваю карэспандэнцыю Юрый Дудзінаў у нумары ад 16 лютага гэтага года. З уласцівай яму ironіяй і сарказмам аўтар паведамляе пра спробы вылучэння ў асяродку лідараў апазіцыйных партыяў і няўрадавых грамадскіх аб'яднанняў адзінага магчымага кандыдата ў прэзідэнты ад агульнага перадвыбарнага блоку.

І што ж пабачыў аглядальнік? Тое, што яму загадалі пабачыць: адсутнасць адзінства ў рэгіянальных абласных і раённых арганізацыях. Спрытны Юрый хуценька прабегся па дадзеных, падсунутых яму пад руку - вытрымкі з перадачаў радыё «Свабода», занатоўкі са сходаў у Магілёве, Гомелі, Барысаве, Пінску. Вось такая геаграфія імклівых пералётаў Джэймса Бонда беларускага гатунку Юрыя Дудзінава.

Між тым, сам таго не жадаючы, ён падпілоўвае сук, на якім утульна размясцілася ўся каралеўская раць - прэзідэнцкая каманда. Па-сутнасці, абвяргае лукашэнкаўскае «адкрыццё» пра наяўнасць ў Беларусі, акрамя яго, палітычных дзеячаў. У газетнай жа публікацыі называюцца прозвішчы Уладзіміра Ганчарыка, Сямёна Домаша, Васіля Быкава, Аляксандра Дабравольскага, Міхаіла Чыгіра, Аляксея Караля, Міхаіла Пастухова.

Для Дудзінава чамусьці вельмі кепска тое, што пры выяўленні рэйтынгу дэмакратычных прэтэндэнтаў назіраецца розніца ў адным-двух галасах. Сапраўды, у Магілёве Сямён Домаш набраў на адзін голас больш, чым Аляксандр Дабравольскі. Той жа Сямён Домаш у Віцебску на пяць галасоў апярэдзіў Міхаіла Чыгіра. Маўляў, якая падтрымка, калі лідары рэгіянальных партыйных, няўрадавых грамадскіх арганізацыяў, свабодных і незалежных прафсаюзаў не могуць цвёрда вызначыцца!

Вось тут бы Юрыю Дудзінаву сказаць пра дамоўленасць асноўных вылучэнцаў дэмакратычнай грамады. Працуючы на дадзеным этапе паасобку, «раскручваючы» сябе, кожны з іх увальецца ў каманду адзінага кандыдата, вылучанага ў свой час. Гэтае рашэнне застанецца ў сіле. Аўтар пацішаецца над колькасцю прысутных на «сходах, сходках, кангрэсах...прадстаўнікоў грамадскіх арганізацыяў, палітычных партыяў». У Магілёве сабралася 20 асобаў, у Віцебску-75, у Гродне, Брэсце, Гомелі - невядома колькі. Зноў «лукавы» аглядальнік не тлумачыць даверліваму люду пра Каардынацыйную раду «Рэгіянальная Беларусь», якая аб'ядноўвае ўсе рэгіянальныя дэмакратычныя арганізацыі, што рашэнні гэтай рады абавязковыя да выканання, што за кожным прадстаўніком, вылучаным у раду, стаяць сотні і сотні шэраговых сябраў. А яны здольныя данесці праўду да тысячаў грамадзянаў...

Такія «артыкулы», сведчаць, што лукашэнкаўскія юрыі дудзінавы вельмі слаба падкаваныя ў сучасным апазіцыйным грамадска-палітычным жыцці, не валодаюць глыбокай інфармацыяй па тэме, вылучанай да разважанняў. Пісаць, напрыклад, што ў Гродне «о несомненном лидере в оппозиционном бомонде пока неизвестно», смешна і наіўна.

Ён ёсць, і імя яму - Сямён Домаш!

**Антон Лабовіч**

# Муж і жонка правялі пікет

**У мінулую нядзелю, 25 лютага, сябра Кансерватыўна-Хрысціянскай Партыі - БНФ Віктар Туравец і яго жонка Тацяна правялі ў цэнтры Смаргоні несанкцыянаваны пікет. Віктар трымаў плакат, на якім было напісана: «Мы, беларуская сям'я, лічым, што Лукашэнка і яго атачэнне - незаконныя, што Лукашэнка - гэта галеча і беднасць, нізкі заробак, беззаконне, пагроза страты незалежнасці Беларусі. Хопіць, нацярпеліся! Нам патрэбны новы, сапраўдны прэзідэнт!»**

У Тацяны на плакаце было напісана:

*«Уставай, суайчыннік,*
*з каленяў!*
*Не трусь!*
*Годзе свет нам смяшыць*
*І гібець, як папала!*
*Беларускае слова жыве!*
*І жыве Беларусь!»*

Прастаяўшы ў пікеце роўна гадзіну і раздаўшы больш як 100 улётак, пікетоўцы спынілі акцыю.

**Янка Крывіч**

# Студэнты юрфака пагражаюць бяспецы на дарозе

**25 транспартных здарэнняў учынілі студэнты юрыдычнага факультэта Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Я.Купалы ў мінулым годзе. Такую інфармацыю агучыў кіраўнік Ленінскага ДАІ горада Гродна Аляксандр Кухарчык падчас сустрэчы са студэнтамі гэтага факультэта ў рамках правядзення адзінага дня бяспекі дарожнага руху ў Беларусі, якія праходзяць, адпаведна ўказу кіраўніцтва ДАІ, у апошнюю пятніцу кожнага месяца.**

Як паведаміў Аляксандр Кухарчык, за 2000 год у Ленінскім раёне горада Гродна было зафіксавана 2016 транспартных здарэнняў, што на 30 працэнтаў больш, чым у 1999 годзе. У 157 здарэннях пацярпелі людзі, 19 чалавек - са смяротным зыходам. 70 працэнтаў парушэнняў - гэта наезды на пешаходаў, а кожны чацвёрты наезд адбыўся на пешаходным пераходзе. Павялічылася колькасць і дзіцячага траўматызму: 14 - у 2000 годзе супраць пяці - у 1999 годзе. Загінуўшых, дзякуй Богу, няма. Паводле словаў спадара Кухарчыка, найбольш распаўсюджанымі аўтамабілямі, якія карыстаюцца попытам угоншчыкаў, з'яўляюцца «VW Passat», «VW Venta» і «Audi».

Пасля афіцыйнай часткі Аляксандр Сяргеевіч ветліва пагадзіўся адказаць на пытанні карэспандэнта ПАГОНІ.

***- Чым выклікана павышэнне колькасці транспартных здарэнняў у мінулым годзе?***

- Парушэннямі правілаў дарожнага руху. Найбольш распаўсюджаныя з іх: ліхацтвы, няўмелае маневраванне, перавышэнне хуткасці.

***- Як сябе паводзіць, калі прыпыніў інспектар ДАІ? Ці павінен кіроўца выходзіць з аўтамабіля?***

- Выходзіць ці не выходзіць - гэта яго прыватная справа. Кіроўца можа заставацца ў машыне і падаць дакументы праз акно. А калі інспектар прапануе выйсці, то для гэтага, напэўна, існуе неабходнасць. Я лічу, што гэта няцяжка зрабіць.

Часта паўстае пытанне ў кіроўцы, ці павінен ён перадаваць вадзіцельскае пасведчанне работніку ДАІ альбо работніку іншай службы, калі ў яго няма нагруднага знака супрацоўніка ДАІ? Адказ дае правіла дарожнага руху, дзе зазначана, што супрацоўнікам міліцыі кіроўца павінен прад'явіць пасведчанне.

***- Міністэрствам унутраных справаў ўсталявана сума грошай, якую можа мець пры сабе інспектар ДАІ падчас дзяжурства...***

- Такія абмежаванні, сапраўды, былі ўстаноўленыя Міністэрствам унутраных справаў. Аднак, я лічу, што гэта не зусім правільна. Таму што гэта асабістае жыццё інспектара.

***- Часта даводзіцца чуць пра тое, што інспектары ДАІ злоўжываюць сваім службовым становішчам. А на практыцы такія выпадкі выяўляюцца?***

- На жаль, такія выпадкі здараюцца. У нас ёсць спецыяльныя службы, якія гэтымі справамі займаюцца. Таксама і кіраўніцтва ДАІ кантралюе гэтыя пытанні. Шкада, але нават ў сям'і не без выродкаў.

***- А якія меры прымаюцца, каб іх пакараць?***

- Іх папросту звальняюць.

***- Якія патрабаванні прад'яўляюцца да тых, хто хоча стаць інспектарам ДАІ?***

- Супрацоўнікам міліцыі можа стаць чалавек, які ў маладосці не меў парушэнняў як грамадскага парадку, так і грубых парушэнняў правілаў дарожнага руху. Для таго, каб паступіць вучыцца на інспектара дарожна-патрульнай службы, неабходна прайсці медычную камісію, пацвердзіць добры стан здароўя. З дзесяці кандыдатаў камісію праходзяць, прыкладна, два-тры. Кандыдат абавязкова павінен быць падрыхтаваным, адукаваным...

***- Што рабіць тым, хто мае старыя вадзіцельскія пасведчанні? Які час яны яшчэ будуць дзейнічаць?***

- Пакуль старое вадзіцельскае пасведчанне дзейнічае.

***- Як Вы ставіцеся да тых, хто на працягу апошняга года не меў вадзіцельскай практыкі?***

- Вадзіцель, які не кіраваў транспартным сродкам на працягу года, павінен прайсці праверку ведаў дарожнага руху. Гэтае пытанне, як правіла, паўстае пры змене вадзіцельскага пасведчання. Таму, хто хоча памяняць яго, абавязаны пацвердзіць, што апошні год ён ездзіў на сваім аўто.

***- Напрыканцы нашай размовы крыху жартоўнае пытанне. Ці ўжываюць супрацоўнікі ДАІ спіртныя напоі?***

- Мы ж не іншаземцы. Мы такія ж людзі, як і вы: жывем, працуем, размаўляем з тымі, хто побач. У нас таксама ёсць знаёмыя, сябры, сваякі. І, канешне, мы ўжываем спіртное, але ў разумных памерах і толькі пасля працы.

***- А менавіта Вы, што «ўжываеце»?***

- Я люблю чырвонае віно.

**Гутарыў Дзяніс Курчэўскі**



Сумесныя музычныя вечарыны для мастоўскіх чарнобыльцаў - адзіная магчымасць забыцца на праблемы

# Чарнобыльцы з Мастоў не хочуць быць эфіопамі!

**Імя ім далі адно на ўсіх і ў адзін для ўсіх дзень. Яны жылі ў Хойніках, Брагіне, Нароўлі, на тым кавалку Беларусі, які сёння мае назву - Чарнобыльская зона. «Чарнобыльцы», «перасяленцы» - так называюць іх ужо колькі год ва ўсіх беларускіх гарадах, мястэчках, вёсках, куды яны цягнуліся няспынным клінам, каб забыцца на раптам абяспладжаную зямлю і на тыя страшэнныя дыягназы, што пачало ставіць ім, не зважаючы на ўзрост, жыццё.**

У Масты, самы звычайны гарадок на Гарадзеншчыне, у 1992 годзе пераехала з зоны абавязковага адсялення 360 сем'яў. Сярод іх была і сям'я Святланы Шульгі. У 1986 годзе Святлана жыла і працавала ў Нароўлі, самым паўднёвым горадзе Беларусі. Працавала выхавальніцай у дзіцячым садку. Адразу пасля аварыі ўвесь персанал разам з дзеткамі быў вывезены з забруджанай зоны. Праз тры месяцы садок вярнулі назад у Нароўлю, дзе пацягнулася звычайнае «даварыйнае жыццё». Толькі прыезджыя ліквідатары знялі на тэрыторыі садка дзесяць сантыметраў грунту, каб дзеткі маглі спакойна хадзіць у садок. Напрыканцы 80-х жыхары Нароўлі заўважылі, што мясцовае чынавенства пачало пакрысе пакідаць горад - высяляцца. Святлана стала закідваць райвыканкам запытамі на высяленне. І ў 1992 годзе атрымала магчымасць разам з сям'ёю выехаць у Масты. Мастоўскае начальства выдала на рукі ўсім перасяленцам ключы ад кватэраў. Аднак зусім не падумала, што людзям неабходна даць яшчэ і працу.

- У нас так заўсёды, ёсць, было і будзе. Не падумалі, як чалавеку можна пражыць, не працуючы. У Мастах мясцовым не хапае працы. А калі яшчэ закрыецца «Мастыдрэў», становішча ў горадзе будзе - проста жах. Бяда ў горадзе страшэнная. Не маючы заробку, мы не можам набыць нашым дзецям звычайных вітамінаў.

Усе дзеці, што пераехалі ў 1992-м з зоны ў Масты, і тыя, хто ўжо нарадзіўся тут, маюць жоўтую паметку на амбулаторнай картцы - трэцяя група здароўя, усе стаяць на лекарскім уліку. У кожнага другога дзіцяці павялічана шчытападобная залоза. Многія бацькі, стаміўшыся шукаць працу ў Мастах, прадаюць, амаль задарма, свае кватэры, забіраюць дзяцей і вяртаюцца назад, на радзіму. Там іх прымаюць з адной умовай - давай падпіску прыкладна такога зместу: «мае дзеці здаровыя, і я ніколі не буду патрабаваць кватэру». Праходзіць паўгода-год, і дзеці пачынаюць хварэць. З 1992 года з Мастоў з'ехала ўжо каля 100 сем'яў.

Святлана ўзгадвае пра трагедыю, якая вярнула ўсім адчуванне, што ад радыяцыі не закрыешся сотнямі кіламетраў:

- Адразу, як толькі мы пераехалі, у «чарнобыльскай» сям'і памёр хлопчык. Памёр ад таго, што ў яго расклалася печань. Для нас, для бацькоў, гэта было катастрофай. Людзі папросту не ведалі, як жыць далей. Асабліва тыя, у каго малыя дзеткі.

Перасяленцы з зоны жывуць у Мастах ужо амаль дзесяць гадоў. Аднак, для большасці карэнных «незабруджаных» мастаўчанаў, яны па-ранейшаму застаюцца чужынцамі. У горадзе часта даводзіцца чуць: «Вось чарнобыльцам, перасяленцам пуцёўкі даюць на аздараўленне. Ім шмат прапаноўваюць, а нам - нічога. Чым мы адрозніваемся ад іх? Мы такія самыя, як і яны».

Святлана прыгадвае выпадак, як яна ў пошуках працы ўладкавалася ў суд, дзе яе начальніцай была жанчына ў гадах:

- Яна заўсёды казала: «Чарнобыльцы - гэта не людзі. Ты працаваць не будзеш».

Святлане, якая мае дзве спецыяльнасці, давялося зволніцца з гэтай працы. Святлана лічыць, што ім ніколі не ўдасца прыжыцца ў Мастах. Мясцовыя ўлады ўвесь час лічаць «чарнобыльцаў» камянём на сваёй шыі. Неяк «чарнобыльцы» хадзілі да былога мэра Мастоў Цярэшкі прасіць гарачай вады ў кватэрах. Той выслухаў і адказаў: «А чаго вы хочаце? Эфіопы даўно жывуць без гарачай вады».

Новаабраныя дэпутаты таксама не маюць ахвоты займацца чарнобыльскімі праблемамі. Нядаўна абраны ў Мастоўскім раёне «палатнік» Дылеўскі, «адшыў» жанчынаў з няменшым імпэтам: «Вы чаго сюды прыйшлі? Вы аднімаеце ў мяне час».

У 1995 годзе мастоўскія чарнобыльцы заснавалі ў Мастах раённае аддзяленне фонда «Дзецям Чарнобыля». Мясцовыя ўлады далі памяшканне, праўда, старое і захламленае. Ніхто не верыў, што ўдасца яго адрамантаваць. Цяпер у Мастах працуе «Спортклуб», «Клуб выхаднога дня з састарэлымі людзьмі», праграма «Мост у будучыню», дзе вывучаецца ангельская мова, камп'ютары, праводзяцца музычныя вечары. Клуб, які стаў для чарнобыльцаў нейкай магчымасцю забыцца на існуючыя праблемы, сёння вельмі папулярны сярод самых мастаўчанаў.

Мы зазірнулі ў спартовую залу. Пад кіраўніцтвам трэнера, са скакалкай бегалі з дзесятак дзяўчынак і хлопцаў. Твары ва ўсіх былі неверагодна задаволеныя, яны нездарма прыйшлі сюды яшчэ за паўгадзіны да пачатку.

**Павал Мажэйка**

# Прыехалі...

**У Ваўкавыскім раёне часова адмененыя аўтобусныя рэйсы па васьмі прыгарадных маршрутах. Гэта надзвычай абурыла тых, каму даводзіцца штодня дабірацца на працу ў аддаленыя ад цэнтра прадпрыемствы і арганізацыі.**

Паводле словаў дырэктара Ваўкавыскага аўтапарка І.Бачко, маршруты адмененыя мясцовым райвыканкамам з прычыны таго, што аўтапрадпрыемства не аплаціла нафтабазе 27 мільёнаў рублёў за бензін яшчэ за мінулы год.

У гэтым годзе для таго, каб выплаціць людзям заробак, аўтапарк узяў крэдыт у памеры 20 мільёнаў рублёў.

Калі аўтобусы зноў выйдуць у рэйсы, дырэктар спрагназаваць не змог.

**Аляксандр Крутауз**

# Mini-print N3 - міжнародны

**10 сакавіка ў гарадзенскай галерэі «У майстра» адкрыецца міжнародная выстава графікі «Mini-print - Гародня 2001».**

Як паведаміў ПАГОНІ куратар экспазіцыі, мастак Юрый Якавенка, гэта ўжо трэцяя выстава графікі малых формаў у нашым горадзе. Калі раней у «Міні-прынце» ўдзельнічалі адно беларускія майстры, дык зараз можна будзе ўбачыць працы аўтараў з Германіі, Бельгіі, Галандыі, Балгарыі, Славакіі, Літвы, Украіны, Расеі ды Ізраіля.

З беларусаў, акрамя Юрыя Якавенкі, выстаўяцца Уладзімір Вішнеўскі, Віктар Саўчанка і Валянціна Шоба. Гледачоў чакае сюрпрыз: акрамя сучасных еўрапейскіх графікаў, яны ўпершыню пазнаёмяцца з арыгінальнымі афортамі класікаў жанру - галандца Лу Стрыга і славака Альбіна Бруноўскага.

**Ігар Гандлеўскі**

# Наркотыкі ды зводніцтва пацягнулі на «ўмоўна»

**Больш як месяц доўжыўся ў судзе Ленінскага раёна горада Гродна працэс па справе 24-гадовага гарадзенскага жыхара Андрэя Гуля, які займаўся вярбоўкай нашых дзяўчатаў для сексуальных паслуг за мяжу і, акрамя таго, перавозіў з Польшчы і прадаваў тут наркотыкі. На мінулым тыдні суд вынес яму вырак: пяць гадоў умоўна з абавязковым прыцягненнем да працы, але без канфіскацыі маёмасці. Абвінавачаны быў вызвалены з-пад варты ў зале суда.**

Пакуль невядома, да якой працы давядзецца далучыцца ўмоўна асуджанаму Андрэю Гулю. Але, адпаведна інфармацыі, ён з задавальненнем раз'язджае па гораду на сваім белым аўтамабілі «Mercedes», які надзвычай ўражвае наіўных ці проста невялікага розуму дзяўчатаў. Яны мараць аб прыгожым жыцці, а сродкі на яго, як раіць Гуль, едуць здабываць за мяжу...сваім целам. Ён адвозіў іх у Польшчу, часцей за ўсё ў Познань і перадаваў сутэнёру Роберту Бачылу. За кожную дзяўчыну атрымліваў па 400-500 даляраў. Такіх эпізодаў у Аддзеле па незаконнаму абароту наркотыкаў абласнога УУС - 35, следствам даказана 12, а ў судзе іх колькасць зменшылася да шасці, але і гэта няжмала. Па-сутнасці, злачынства такога кшталту кваліфікуецца як «гандаль людзьмі». Але артыкул 181 з'явіўся толькі ў новым, нядаўна прынятым Крымінальным кодэксе Рэспублікі Беларусь. Абвінавачванне ў асобе памочніка пракурора Ленінскага раёна горада Гродна Ю.Плягі не скарысталася магчымасцямі новага кодэкса, і штукарствы спадара Гуля кваліфікаваліся як «зводніцтва з мэтай нажывы» (КК РБ у рэдакцыі 1999 года).

Акрамя вярбоўкі дзяўчатаў для сексуальных паслуг, Гуль займаўся перавозкай і рэалізацыяй наркотыкаў. Прастытуцыі і псіхатропныя сродкі практычна заўсёды суседнічаюць. Вядома, што амфетамін, самы распаўсюджаны наркотык у гэтым асяроддзі, дазваляе прастытуткам адчуваць сябе бадзёра на працягу сутак, і такім чынам абслугоўваць больш кліентаў. Але ён жа правакуе залежнасць, а значыць, гарантуе ўстойлівы рынак распаўсюджання парашку.

Андрэя Гуля затрымалі ў сакавіку 2000 года акурат на наркотыках. Дапамагла нейкая Вольга С., адна з прыяцелькаў падсудга, якая папросту здала Гуля міліцыі разам з дзесяццю пакуначкамі амфетаміну. Паводле яе словаў, Андрэй Гуль прынёс ёй парашок і патрабаваў яго прадаць. Калі Гуля затрымалі, то знайшлі яшчэ порцыю наркотыкаў у рулявой калонцы ягонага аўтамабіля. Усё гэта суд даказаў і далучыў да справы. Але агульная маса амфетаміну «пацягнула» толькі на пяць гадоў умоўнага асуджэння. Гэты тэрмін паглынуў меншы - тры гады ўмоўна - за зводніцтва.

Прыгавор набудзе законную сілу другога сакавіка, калі хто-небудзь не абскардзіць яго. Аднак, падчас падрыхтоўкі нумара да друку, стала вядома, што пракуратура Ленінскага раёна, як паведаміў яе кіраўнік Пётр Урублеўскі, не збіраецца падаваць пратэст.

Такім чынам, Гуль адседзеў дзевяць месяцаў у Гарадзенскім СІЗА і выйшаў на волю. Яму вярнулі ўсе яго рэчы, у тым ліку і белы «Mercedes» (як высветлілася, Гуль кіруе ім па генеральнай даверанасці). Так што Андрэй Гуль ізноў ездзіць па гораду і прываражвае дзяўчатаў. Вось толькі мяжу не здолее перасякаць на працягу трох з паловай гадоў. Але ж ці праблема гэта для прадпрымальнага чалавека?

**Ніна Палуцкая**

# Гарадзенскія педагогі - лепшыя ў краіне

**Вольга Гобец, Кацярына Васілевіч і Наталля Праснякова - навучэнкі Гарадзенскай педагагічнай вучэльні - занялі тры першыя месцы ў рэспубліканскай алімпіядзе па прафесійнаму майстэрству выкладання музыкі і музычнага выхавання, што адбывалася з 19 па 23 лютага ў Гродне.**

Першай сярод маладых педагогаў была Вольга Гобец. Кацярына падзяліла другое месца яшчэ з дзвюма дзяўчынамі - выхаванкамі Менскага педагагічнага каледжа N2 і Гомельскага педагагічнага каледжа. Трэцяе месца разам з Наталляй Прасняковай журы прысудзіла полацкай дзяўчыне.

Алімпіяда праводзіцца ўжо некалькі гадоў, аднак гэтым разам яна мела свае асаблівасці. Істотная ўвага надавалася практычным формам працы - музычным заняткам у школе і старэйшых групах дзіцячых садкоў. Менавіта ў гэтым конкурсе Вольга Гобец і абыйшла суперніцаў: атрымала за свае заняткі максімальныя балы.

- Алімпіяда далася даволі цяжка. Раней гарадзенкі заўсёды займалі прызавыя месцы. Таму і мы мусілі выступіць годна. Да таго ж, я напярэдадні захварэла. Але бяссонныя ночы не прапалі дарма, - распавяла Вольга.

Дзяўчаты, якія занялі прызавыя месцы, атрымалі невялікую прэмію ў некалькі тысяч рублёў. Якую дакладна - журы не гаворыць. «Бо яна настолькі невялікая, што, думаю, не варта яе друкаваць», - прызнаецца старшыня журы, кандыдатка навук, загадчыца кафедры Метадалогіі музычнага выхавання і пастаноўкі голасу Менскага педагагічнага універсітэта імя М.Танка, Таісія Каралёва. Але Вольга не ўтойвае: за першае месца атрымала 7 200 рублёў. Апрача таго, яна будзе залічаная на трэці курс універсітэта імя М.Танка без экзаменаў.

- Тое, што гарадзенкі занялі першае месца ў алімпіядзе, яшчэ раз пацвярджае, што выхаваўчая і метадалагічная школы ў Гарадзенскай педагагічнай вучэльні на сённяшні дзень адныя з самых моцных у краіне, - адзначыла спадарыня Каралёва.

**Алеся Сідлярэвіч**

# Гандаль і спорт ужываюцца мірна

**На мінулым тыдні ПАГОНЯ ўжо закранула праблему эфектыўнасці выкарыстання будыніны, узвядзенне якой каштавала сама меней пяць мільёнаў даляраў, пад рынак. Сёння мы паспрабавалі прадставіць іншы бок падзеі.**

Светлае, цёплае памяшканне. Спакойна і павольна пад прыемную музыку рухаюцца пакупнікі ўздоўж прылаўкаў. «І людзям цяплей, і ў цэнтры ўсё ж такі», - далятае да маіх вушэй кавалак размовы дзвюх жанчынаў бальзакаўскага ўзросту, якія накіроўваюцца да латка з парфумай і набываюць сабе шампунь. Прыкладна такую карціну ўбачыла я, калі завітала на «Кірмаш», што працуе з 10 лютага ў Лядовым палацы.

Іду далей. Увагу прыцягвае незвычайнае відовішча. Прыгожы, статны, спартовага целаскладу хлопец старанна праціраве мокрай анучай падлогу ля прылаўка з фірмовымі красоўкамі. «Студэнт падпрацоўвае прыбіральшчыкам», - падумалася мне. Але ж - не. Гэта прадпрымальнік Валера клапоціцца пра сваіх кліентаў.

- На «Паўднёвым» рынку мы меней плацілі за месца, але тут умовы лепшыя. Калі добра працаваць будзеш, то пакупнікі ўсюды будуць. Гэта як з падлогай: пакуль сам не вымыеш - ніхто не вымые», - тлумачыць партнёр Валеры па бізнесу, ягоны брат Дзіма.

Прыкарнула ў кутку і чытае газету гандлярка Галіна.

- Тут, канечне, значна лепей, чым на «Паўднёвым». Чыста, цяпло і людзей больш. Не трэба губляць час і грошы на доўгую дарогу (у адзін бок дарога да «Паўднёвага» на бусіку каштуе 400 рублёў. - **заўвага аўтара**). За месца плачу я тут меней - 45 даляраў, а на «Паўднёвым» я здымала «жоўты павільён» за 70. І пакупнікам зручна - ёсць дзе прымерку зрабіць.

Тавар свой гандляры пакідаюць на месцы, што ўдвая зручней: не трэба цягацца з цяжкімі валізкамі і надаваць рэчам пасля транспарціроўкі «таварны выгляд».

Падыходжу яшчэ да дзвюх гандлярак. Час і ўмовы дазваляюць ім пасядзець ля акенца, папіць каву ды пачысціць пазногці. Але размаўляюць яны неахвотна. Усё ў іх, маўляў, камерцыйная таямніца. Гандаль ідзе, відаць, не так паспяхова, як яны планавалі.

І вось ужо на маё пытанне «Як працуецца?», чую зусім злосны адказ уладальніцы латка з футрамі: «Ну, як Вы думаеце?!» Так, напрыканцы зімы шубы - не самы хадавы тавар.

Карацей, меркаванні прадпрымальнікаў разышліся. А распачаў гэтую справу прадпрымальнік Віктар Аляксандравіч Коўшык.

Пасля выставы гандлю і прамысловасці Гарадзеншчыны, што праходзіла ў Лядовым палацы ў снежні мінулага года, ён падышоў да дырэктара палаца Васіля Рудзько і запрапанаваў яму наладзіць у «Лядовым» сталы рынак. Такая ідэя хадзіла сярод прадпрымальнікаў даўно. Але ніхто не хацеў за яе брацца: надта шмат марокі. А вось Віктар Коўшык не пабаяўся перашкодаў. Стварыў арганізацыйны камітэт і ўзяўся за працу. Найперш, трэба было знайсці неабходную колькасць гандляроў, паставіць сігналізацыю і набыць латкі. Многія адмаўляліся, казалі: «Вы пачніце, а мы пасля далучымся». Даваліся сутыкнуцца з супрацьдзеяннямі і пасур'ёзней.

- Бізнесоўцам, якія трымаюць кантрольны пакет акцыяў закрытага акцыянернага таварыства «Рэчавы рынак Паўднёвы» вельмі нявыгадна, каб дзесьці стварыўся яшчэ адзін гандлёвы пункт. Таму два першыя дні, як мы адкрыліся, да нас прысылалі падатковую інспекцыю, - гаворыць спадар Коўшык.

Наконт пашырэння рынку ў цэнтры горада ў спадара Коўшыка далёкія планы: побач - стадыён «Нёман».

- Усе спартовыя збудаванні звычайна стратныя, заўсёды існуюць за кошт дзяржаўных датацыяў. Чаму б нам не скаапераваць і не дапамагчы адзін аднаму? - разважае ён.



Прадпрымальнік Віктар Коўшык

Дарэчы, і рэкламны лозунг «Купляючы тавары ў Лядовым палацы, вы дапамагаеце развіццю беларускага спорту» прыдумаў спадар Коўшык, спадзеючыся, што «ў Гродне ёсць патрыёты, якім неабыякавы нацыянальны спорт».

Працуе «Кірмаш» з 10 да 18 гадзін у будні дні, і з 11 да 16 - у суботу і нядзелю, выхадны дзень - панядзелак. Існаванне рынку ніяк не перашкаджае правядзенню гульняў. Гандлёвыя рады, размешчаныя уздоўж сценаў калідора, акайноўваюць лядовую залу. Гандаль згортваецца толькі падчас буйных канцэртаў. На звычайныя канцэрты і гульні заўзятары трапляюць у лядовую залу праз вольны цэнтральны ўваход.

Зараз у Лядовым палацы працуе каля 50 гандляроў. Арэндная дамова з імі заключана папярэдне на месяц. Арэнда месца каштуе 10 даляраў за адзін квадратны метр (на «Паўднёвым» - 30 даляраў за месца пад палатку плошчай 2х2,5 метраў і каля 60-70 даляраў - за павільён). І прадпрымальнікі, і «Лядовы», адпаведна словам спадара Коўшыка, пакуль працуюць з убыткам (Лядовы палац мусіць плаціць за арэнду гандлёвых секцыяў і дадатковы расход электраэнергіі). Дырэктар Лядовага палаца спадар Радзько размаўляць з ПАГОНЯЙ не захацеў. Магчыма, чагосьці баіцца. Так ці інакш, але сказаць - на што канкрэтна ідуць атрыманыя ад прадпрымальнікаў грошы - мы не можам.

Ад наведвання «Кірмаша» засталася ўпэўненасць - адчуўшы перавагі працы ў «чалавечых» умовах, большасць гандляроў, нягледзячы на тое, што пакуль яшчэ не акупіліся іхнія першапачатковыя выдаткі, збіраюцца працягваць кантракт. Ды і пакупнікі адназначна адказваюць, што хадзілі б часцей і ахвотней за пакупкамі ў «Лядовы», каб тут быў буйнейшы рынак.

**Алеся Сідлярэвіч**



На рэчавым рынку ў Лядовым палацы - шырокі выбар парфумы

# Турэцкія тавары стануць танней

**Дэвальвацыя турэцкай ліры можа прывесці да патаннення тавараў, выробленых у гэтай краіне, на рэчавых рынках Беларусі. Такое меркаванне выказаў сябра Каардынацыйнага савета арганізацыяў прадпрымальнікаў Леанід Каліценя.**

Напрыканцы мінулага тыдня ў Турцыі выбухнуў фінансавы крызіс, пасля таго як паміж прэзідэнтам і прэм'ер-міністрам гэтай краіны адбыўся публічны канфлікт. Крызіс ліквіднасці банкаўскай сістэмы Турцыі прымусіў улады адмовіцца ад жорсткага кантролю на валютным рынку, у выніку чаго курс амерыканскага даляра да ліры ўзрос больш чым на 50 працэнтаў. Калі 21 лютага за даляр давалі 694 тысячы ліраў, то 23-га - ужо 1,1 мільёна.

- Дэвальвацыя ліры прывядзе да патанення турэцкіх тавараў, аднак яно наўрад ці будзе вялікім. Ільвіную долю тавараў беларускія індывідуальныя прадпрымальнікі закупляюць у Маскве, а там свае парадкі, - сказаў Каліценя.

Паводле ягоных словаў, разам з кітайскімі таварамі турэцкія займаюць асноўнае месца ў асартыменце рэчавых рынкаў Беларусі. «Турэцкія і кітайскіх рэчаў - прыкладна пароўну. Гэтыя суадносіны, хутчэй за ўсё, не зменяцца нават у выпадку патанення першых. Турэцкія тавары ўсё роўна застануцца даражэйшымі за кітайскія, якасць якіх значна горшая», - мяркуе Каліценя.

**Дзмітрый Уласаў**

# Працэнты па ўкладах у банках зніжаюцца

**З панядзелка, 26 лютага, у большасці беларускіх банкаў зніжаныя працэнтныя стаўкі па ўкладах, дэпазітах і рахунках у беларускіх рублях. На думку аналітыкаў-эканамістаў, падставамі зніжэння з'явіліся:**

1) змяншэнне на пяць працэнтаў стаўкі рэфінансавання рашэннем Праўлення Нацыянальнага банка Беларусі ад 21 лютага 2001 года да ўзроўня 75 працэнтаў гадавых;

2) зніжэнне ўзроўня інфляцыі з 1,6 працэнта ў тыдзень у студзені да 0,95 працэнта ў тыдзень за люты (па выніках першых трох тыдняў лютага);

3) параўнальна невысокі ўзровень дэвальвацыі курсу беларускага рубля да даляра ЗША (з першага студзеня 2001 года - 4,63 працэнта) і да расейскага рубля (з першага студзеня 2001 года - 1,99 працэнта).

Сёння ў Беларусі функцыянуюць 27 камерцыйных банкаў. На Гарадзеншчыне свае філіялы маюць 15 з іх. Найбольш «вядомыя»: ААБ «Беларусбанк», Белпрамбудбанк, Белаграпрамбанк, «Прыёр», Белбізнесбанк. Зусім нядаўна адкрылі свае прадстаўніцтвы Беларускі Індустрыяльны Банк, Белгазпрамбанк, ужо болей як пяць гадоў працуе «Заходні» філіял Інфабанка.

У большасці беларускіх камерцыйных банкаў, якія функцыянуюць на Гарадзеншчыне, таксама зніжаныя з 26 лютага 2001 года працэнтныя стаўкі па ўкладах і дэпазітах у беларускіх рублях. Найбольшае зніжэнне ў ААБ «Беларусбанк» - рашэнне Праўлення ААБ «Беларусбанк» (N 7.II). Адпаведна ўказанаму рашэнню, усталяваныя наступныя працэнтныя стаўкі па ўкладах (дэпазітах) у беларускіх рублях: па тэрміноваму ўкладу з тэрмінам захавання не менш як адзін год - 105 працэнтаў гадавых; на назапашвальных укладах - 120 працэнтаў гадавых; па мэтавых укладах на дзяцей - 125 працэнтаў гадавых; па ўкладу «XXI стагоддзе» з тэрмінам захавання 100 дзён - 105 працэнтаў гадавых, з тэрмінам захавання 190 дзён - 115 працэнтаў гадавых; па ўкладу «Выйгрышны-плюс» - 100 працэнтаў гадавых (85 працэнтаў на асноўны капітал плюс 15 працэнтаў на выйгрыш). Найбольш прывабным укладам у ААБ «Беларусбанк» з'яўляецца ўклад «XXI стагоддзе» з тэрмінам захавання 370 дзён - 125 працэнтаў гадавых.

Сярод іншых «прапаноў» камерцыйных банкаў у Гродне цікавыя наступныя: уклад на 15 дзён у Белпрамбудбанку (90 працэнтаў гадавых) і ў гэтым жа банку ўклад на 370 дзён з правам датэрміновага зняцця (120 працэнтаў гадавых); «пенсіённы» і «сямейны» ўклады ў ААТ «Белбізнесбанк» (90-100 працэнтаў гадавых у залежнасці ад тэрміну ўкладу), уклады ў Беларускім індустрыяльным банку (з павелічэннем сумы ўкладу павялічваецца працэнт па ўкладу).

Наогул па рэспубліцы адзін з найбольш прывабных укладаў у беларускіх рублях - уклад «Вясенні» тэрмінам на 55 дзён пад 128 працэнтаў гадавых у ААТ «Белаграпрамбанк» (напрыклад, аддзяленне ў горадзе Барысаве). Мінімальная сума ўкладу - 3000 беларускіх рублёў.

Працэнтныя стаўкі па ўкладах (дэпазітах) у замежнай валюце ў лютым адчувальных зменаў не зведалі. Працэнт вагаецца ў залежнасці ад сумы ўкладу (дэпазіту) тэрміну і шэрагу іншых умоваў.

Разгледзім найбольш прывабныя прапановы камерцыйных банкаў у Гродне па ўкладах у замежнай валюце на прыкладзе трох банкаў: ААБ «Беларусбанк», Белпрамбудбанка ды Інфабанка.

У ААБ «Беларусбанк» па тэрміноваму ўкладу «назапашвальны» на шэсць месяцаў - восем працэнтаў, на 12 месяцаў - 10 працэнтаў, на 18 месяцаў - 11 працэнтаў, на 24 месяцы - 13 працэнтаў, на 36 месяцаў - 14 працэнтаў гадавых; па тэрміноваму ўкладу ад трох да 12-ці месяцаў - чатыры-сем працэнтаў гадавых пры суме ўкладу да 300 даляраў ЗША; 10 працэнтаў гадавых па ўкладу на 12 месяцаў пры суме ўкладу ад 301 да 1000 даляраў ЗША і 11 працэнтаў пры суме ўкладу ад 1001 да 2500 даляраў ЗША. Калі сума ўкладу болей за 2500 даляраў ЗША, то на тры месяцы - шэсць працэнтаў, на шэсць месяцаў - дзевяць працэнтаў, на 12 месяцаў - 12 працэнтаў гадавых.

У Белпрамбудбанку па ўкладах у даларах ЗША з фіксаванай стаўкай: на 100 дзён - восем працэнтаў, на 180 дзён - дзевяць працэнтаў, на 370 дзён - 11,5 працэнта, 720 дзён - 14 працэнтаў гадавых; па валютнаму ўкладу з правам датэрміновага зняцця: на 180 дзён - восем працэнтаў, на 370 дзён - 10,5 працэнта, на 720 дзён - 11,5 працэнта гадавых.

У Інфабанку па ўкладах у даларах ЗША з правам штомесячнага атрымання працэнтаў: на тры месяцы з разліку дзесяці працэнтаў, шэсць месяцаў - 12 працэнтаў гадавых. Надзвычай цікавыя прапановы: уклад на 370 дзён з правам штогадовага атрымання працэнтаў (пад 14 працэнтаў гадавых) і ўклад на два гады пад 12 працэнтаў гадавых з правам штомесячнага атрымання працэнтаў і правам датэрміновага скасавання дамовы. Мінімальная сума ўкладу - 100 даляраў ЗША.

Варта адзначыць, што пачынаючы з сакавіка-красавіка 2000 года, уклады ў беларускіх рублях больш прывабныя, чым уклады ў замежнай валюце. Так, калі б чытач ПАГОНІ паклаў у банк 1000 даляраў ЗША ў эквіваленце нацыянальнай валюты першага сакавіка 2000 года і сёння закрыў бы ўклад, то ягоны даход склаў бы ў сярэднім 592,6 даляра ЗША, а калі б гэты працэс адбыўся па ўкладу ў даларах ЗША, то даход склаў бы ў сярэднім 130 даляраў ЗША. У выпадку захавання ўзроўня дэвальвацыі беларускага рубля ў дачыненні да даляра ЗША (2,5 працэнта ў месяц) уклады ў беларускіх рублях за перыяд з першага сакавіка 2001 года па першае сакавіка 2002 года таксама будуць больш даходнымі за ўклады ў замежнай валюце (як мінімум у 2,5-2,8 раза). Праўда, аналітыкі-эканамісты раяць прадугледзець і палітычны аспект - у верасні адбудуцца прэзідэнцкія выбары. Так што лепей закрыць уклад да верасня 2001 года... Таксама належыць адзначыць, што дзяржава гарантуе «100-працэнтнае» вяртанне ўкладу толькі да 1000 даляраў ЗША. І калі б чытач ПАГОНІ паклаў свае зберажэнні, напрыклад, у банк «Пошук» альбо «БелБалтыя», то даходаў і, магчыма, укладаў наогул не было б.

Але гэта ўжо зусім іншая гісторыя. Чытайце папярэднія і наступныя нумары ПАГОНІ.

**Кацярына Зволін**



# РЭКЛАМА Тэлефоны: (0152) 72-29-96, 72-37-14



## ПРЫВАТНЫЯ БЯСПЛАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

### ПРАДАЮ

Дом у Івацэвічах. Тэл. (8-01645) 2-22-15.

Рухавік і задні мост М-412 у добрым стане ды іншыя запчасткі. Тэл. 74-37-16.

Капот для а/м «Ford Sierra». Вельмі танна. Тэл. 2-65-60.

2-пакаёвую кватэру на чацвёртым паверсе ў г.Іўе. Тэл. 72-51-71.

Дачу ў г.Ваўкавыск, ёсць водаправод. Тэл. у Ваўкавыску 2-13-21 (пасля 17.00).

Двухпавярховы недабудаваны дом у г.Дзятлава. Тэл. (8-263) 2-54-15.

А/м BMW-518, на беларускіх нумарах, 1979 года выпуску, у добрым стане, газ, бензін. Кошт - 600 у.а. Альбо мяняю на іншую аўтамашыну. Прапаноўвайце варыянты. Тэл. у г.п.Воранава (8-294) 2-13-46.

ВАЗ-21011. Тэл. 72-59-38 (пасля 18.00).

Рогі лася (11 разгалінаванняў), два паўтарачныя(1,5) ложкі (б/у, танна), магнітафоны «Сатурн-201», «Вега-328» - стэрэа, мужчынскія плашчы (памеры 46-54), мужчынскія касцюмы (п.48 рост 182, п.50 рост 176), асеннія жаночыя боты (п.37), зімовыя жаночыя боты (п.38), джынсавую куртку (п.50-52), жаночыя боты (п.37-37,5), жаночае дэмісезоннае паліто (п.44-48). Тэл. 33-79-95.

Ложак (1,5), ручную швачную машынку, касметычны інгалятар «Рамонак», крэсла. Усё б/у. Тэл. 74-09-19.

Інкубатар для прыватных гаспадарак ІНХ-5. Тэлефон у Дзятлаве: 22-2-27.

Лямпавы апарат мясцовай дарсанвалізацыі «Іскра-1». Звяртацца на адрас: г.Гродна, вул.Пушкіна, д.26, кв.11.

Масквіч-412 на запчасткі. Тэл. 74-37-16.

Вентылятар з алюмініевым акном, «улитку» з крыльчаткай (б/у); будаўнічы вібратар на 36 Вольт. Танна. Тэл. 72-76-08.

Сячкарню ў добрым стане. Тэл. (8-294) 2-32-99.

Зямельны надзел (10 сотак) у раёне Рыбніцы ў лясным масіве. Ёсць драўлянае часовае збудаванне («времянка»). Танна. Тэл. 33-67-43.

### КУПЛЮ

Таршэр. Танна. Тэл. прац. 72-37-14, 72-29-96 (з 10.00 да 18.00, акрамя серады і выхадных; запрасіць Святлану).

Раскошную 3-пакаёвую кватэру; металічныя слупы і плот, смалу. Тэл. 33-14-27.

Слоўнікі, падручнікі па балгарскай, ангельскай, беларускай, нямецкай, польскай, чэшскай мовах. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Антыкварыят, старыя манеты, узнагароды, гадзіннікі. Тэл. 72-02-26.

Аднамясцовую надзіманую лодку, можна б/у. Танна. Тэл. 47-36-25.

### МЯНЯЮ

2-пакаёвую (пасля рамонту) кватэру старой планіроўкі ў цэнтры горада Бабруйска, з паасобнымі пакоямі - на раўнацэнную 2-пакаёвую кватэру ў цэнтры горада Гродна. Тэл. працоўны (8-022-51) 7-00-24; хатні (8-0225) 55-19-31 (запрасіць спадароў Ігара ці Святлану).

3-пакаёвую кватэру чэшскай планіроўкі - на 2-пакаёвую па вуліцах Дзяржынскага, Болдзіна, Курчатава, Горкага, БЛК, праспекту Будаўнікоў. Тэл. 31-23-97.

3-пакаёвую кватэру старой планіроўкі ў горадзе Бабруйску, з паасобнымі пакоямі, пасля рамонту - на раўнацэнную 3-пакаёвую кватэру ў горадзе Гродна. Тэл. (8-02251) 7-81-79 (запрасіць спадароў Віктара ці Наталлю).

### ПАСЛУГІ

Распрацуем ЛЕСАСЕКУ. Тэл. (8-214) 3-62-29. Ліцэнзія N1257 ад 24.03.2000 года, выдадзеная Мінсельгасам.

ДОКТАР СЯРГЕЙ УЛАДЗІМІРАВІЧ КАЛЯДА
Інтэнсіўная псіхатэрапія АЛКАГАЛІЗМУ, ЗАЛІШНЯЙ ВАГІ, КУРЭННЯ. Найноўшыя методыкі.
Тэл. 74-35-46 да 18.00
(Ліц. N796 да 2004 года, МЗ РБ).

Абследаванне і лячэнне хранічных захворванняў па методыцы Р.Фоля. Ліц.МЗ РБ N224 да 30.12.2001 года. Тэл. (8-017) 258-88-14.

Юрыдычныя паслугі. Ліц. МЮ да 26.12.2005 года. Тэл. 33-68-47 (з 9.00 да 17.00).

Абарона ў Гаспадарчым судзе. Ліц. МА N932 ад 26.12.2000 года. Тэл. 33-68-47.

Кансультацыі, кантрольныя работы па філасофіі і праву. Тэл. 47-32-70.

Ад шчырага сэрца віншуем нашых любімых *Людмілу і Анатоля Ткачовых* з такім цудоўным юбілеем у іх жыцці - срэбраным вяселлем!



*Пражыць вам разам*
*столькі ж год,*
*Не ведаць гора і турбот!*
*Хай Бог пра вас не забывае*
*І шчасце дом не пакідае!*

Нашыя мілыя маладыя! Няхай анёл надзейна ахоўвае ваша жыццё, хай радасць і здароўе заўсёды крочаць поруч, а вашыя чароўныя ўсмешкі часцей радуюць нас!

**Сваякі**

*P.S. Мы яшчэ хочам пагуляць на вашым залатым вяселлі!!!*

Усё па гісторыі. Тэл. 47-35-26.

Набор тэксту на камп'ютары, раздрукоўка. Тэл. 74-37-16.

Распрацоўка праграмаў, устаноўка Windows ды інш.; рэпэтытарства па камп'ютары. Тэл. 74-02-31.

Урокі класічнай ігры на гітары на аснове сціслага вывучэння элементарнай тэорыі музыкі і музычнай гармоніі. Тэл. 72-16-55.

Камп'ютарны набор, раздрукоўка на лазерным прынтары. Тэл. 5-36-02 (запрасіць Юлію).

Рэпэтытарства па матэматыцы, школьны курс. Тэл. 72-22-77.

Рэпэтытарства па ангельскай мове. Дасведчаны высокакваліфікаваны педагог. Тэл. 72-62-79.

Французская мова: пераклады, кантрольныя работы, рэпэтытарства. Тэл. 31-44-74 (пасля 19.00).

Набор тэкстаў, курсавых работаў на камп'ютары. Раздрукоўка. Тэл. 44-70-03 (запрасіць Андрэя).

Польская, балгарская і беларуская мовы. Тэл. 2-85-77, 33-09-39.

Ангельская мова: афармленне дакументацыі, анкетаў, пераклады. Тэл. 31-15-83 (запрасіць Аляксандра).

Цэнтральная аварыйная дыспетчарская служба (ЦАДС) аказвае паслугі экскаватарам (ЮМЗ), прадпрыемствам, арганізацыям, прыватным асобам. Тэл. 0-75; а таксама тэл. 2-03-15 (пасля 18.00).

Ангельская мова: рэпетытарства, пераклады. Тэл. 274-46-82, 211-00-00, альбо 9-39-87 (запрасіць Вольгу).

Рамонт каляровых тэлевізараў. Устаноўка ПАЛ, дыстанцыйнага кіравання, тэлетэксту. Ліц. N1243, выдадзеная МП да 2004 года. Тэл. 31-37-05.

Рэпэтытарства па ангельскай і нямецкай мовах. Пераклады. Тэл. 6-12-71 (пасля 18.00).

Ангельская мова для ўсіх. Тэл. 76-38-02.

Дапамагу ў выкананні задачаў, кантрольных, курсавых і дыпломных работаў па любых будаўнічых канструкцыях, супраціўленні матэрыялаў, тэарэтычнай тэхнічнай ды будаўнічай механіцы. Тэл. 72-16-55.

Рэпэтытарства па фізіцы. Дапамагу ў рашэнні задачаў, кантрольных работаў. Тэл. 76-55-14 (запрасіць Юрыя).

Усё па беларускай, ангельскай і лацінскай мовах. Тэл. 33-21-83.

Выраб ксеракопіяў у вялікай колькасці. Пасведчанне N17955. Тэл. 44-14-33 (з 12.00 да 14.00).

Рэпэтытарства па хіміі, біялогіі. Тэл. 78-16-81.

Відэаздымка. Якасна, прафесійна выканаем работы па стварэнні відэафільма, відэакліпа, рэкламнага роліка. Ліцэнзія МК N613 да 2004 года. Выязджаем на месца здымкі на сваім транспарце. Звяртацца: 231900, Гарадзенская вобласць, г.Ваўкавыск, а/с 17. Тэл. 2-34-86.

Рамонт пыласосаў усіх тыпаў з гарантыяй. Выраб шматразовых фільтраў да імпартных пыласосаў. Ліц. N02645 да 2004 года. Тэл. для даведак: 6-45-74.

Сканаванне, раздрукоўка на фотапрынтары, фотамантаж. Танна. Устаноўка праграмаў на камп'ютар, дапамога пры набыцці ПК, рэпэтытарства. Тэл. 31-07-48 (запрасіць Віктара).

### РОЗНАЕ

Падарункі жанчынам ад фірмы «Эйван» (ЗША). Пасв. N590046432 ад 19.12.2000 года. Тэл. 74-09-07.

**Першасная прафсаюзная арганізацыя работнікаў Свабоднага прафсаюза Беларускага СП ТАА «Альформа»** выказвае вялікую падзяку калегам па дэмакратычных прафсаюзах, **першаснай прафсаюзнай арганізацыі Незалежнага прафсаюза Беларускага ВА «Азот»** за салідарнасць і дапамогу, аказаную ў цяжкую хвіліну, якая нам усім зараз так неабходная. Нізкі паклон вам! Хай будзе больш у нас такіх людзей у Беларусі.

**З павагай, старшыня прафсаюза СП ТАА «Альформа» Ірэна Байрашэўская**

Здыму 1-пакаёвую кватэру з тэлефонам, можна без мэблі. Тэл. 31-23-27.

Маладая сям'я здыме дом, палову дома ці 1-пакаёвую кватэру з мэбляй (часткова). Кошт - да 35 у.а. Тэл. 47-23-88.

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-70.

Здаю кватэру на суткі. Тэл. 72-07-40.

Прапішу двох чалавек. Тэл. 6-83-19.

23-гадовы хлопец шукае працу мантажніка на прадпрыемстве. Тэл. 76-41-58.

Новы выбар на «Выставе аўдыё-відэа-кнігапрадукцыі», што знаходзіцца ў Гродне на вуліцы К.Маркса,11 (другі паверх). Выстава працуе кожныя панядзелак і сераду з 17.00 да 20.00 гадзін.

Замаўляйце і чытайце «Голас Краю» - газету беларускіх нацыяналістаў. Звяртайцеся на адрас: 230003, горад Гродна, а/с 100.

Паважаныя гарадзенцы! Любая ваша дапамога, міласэрнасць і проста добрая сэрца патрэбныя Гарадзенскай арганізацыі аховы жывёлаў. Тэл. 44-92-79, 72-15-05.

### ЗНАЁМСТВЫ

Шукаю сапраўднага мужчыну да 54-х гадоў, моцнага, надзейнага, добрага і тактычнага. Пра сябе: 35/162, сімпатычная, разведзена. Пісаць: г.Гродна, п/а 26, да запатрабавання, прад'яўніцы пашпарта V-ДР N562848.

Спадзяюся сустрэць жанчыну, дастойную кахання. Пра сябе: незалежны мужчына сярэдніх гадоў, 176/78. Разведзены, працую. Мастак. Шырокае кола зацікаўленняў, дамінуе сфера мастацтва. Люблю фота, жывапіс. Чакаю лісты на адрас: 230023, г.Гродна, вул.Томіна, 18а, пакой 96 (Віктару Дзмітрыевічу).

### ВІНШАВАННІ

Улюбёнага мужа, тату і дзядулю *Міхаіла Іванавіча Грыгорчыка* віншуем з 70-м Днём народзінаў! Жадаем моцнага здароўя, веснавога задору, шчасця, кахання і адсвяткаваць яшчэ, як мінімум, 100-ы юбілей!

**Твая сям'я**





**ПАГОНЯ купон прыватнай бясплатнай аб'явы**

| 9 | Імя і прозвішча ______ |
|---|---|

Адрас (тэлефон) ______

Рубрыка ______

Тэкст ______

Аб'явы, дасланыя на купонах, друкуюцца ў першую чаргу; неразборліва напісаныя аб'явы не друкуюцца

**Купон з тэкстам адпраўце па пошце на адрас: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11**

**Супрацоўнікі рэдакцыі ПАГОНІ нагадваюць чытачам, якія дасылаюць аб'явы ў рубрыку «Знаёмствы», пра неабходнасць указваць напрыканцы купона нумар паштовага аддзялення сувязі і сваёй абаненцкай скрыні, альбо пакідаць наступную інфармацыю: індэкс паштовага аддзялення, «да запатрабавання, прад'яўніку пашпарта ці іншага дакумента...»; ці прысылаць у рэдакцыю з купонам аб'явы і свой пашпарт.**

## Гарадзенскі ўікэнд



**Гісторыка-археалагічны музей. Стары замак.** Выстава «Гродна, адкрыты археолагамі». **Новы замак.** Экспазіцыя «Зброя мінулых стагоддзяў». Круглая зала. Выстава «Вобразы далёкія і блізкія», прысвечаная 80-годдзю музея. Сенатарская зала. Персанальная выстава мастака Станіслава Кузьмара «Жывапіс». Экспазіцыя «Новыя набыткі»: жывапіс, графіка, дэкаратыўна-прыкладное мастацтва сучасных беларускіх мастакоў.

**Выставачная зала Саюза мастакоў.** Новая выстава мастака Рамана Маісея (жывапіс).

**Галерэя «У Майстра» (Кірава,8).** Шырокі выбар мастацкіх вырабаў.

**Галерэя «Тызенгаўз» (плошча Тызенгаўза,4).** 1 сакавіка - адкрыццё выставы мастакоў «Таварыства мастакоў Гарадзеншчыны».

**Дызайн-галерэя «Раскоша» (вуліца Ажэшкі,39а).** Выстава антыкварыяту, керамікі, шкла, скуры і твораў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.

**Музей Максіма Багдановіча** запрашае з 10.00 да 18.00. Выхадныя дні: нядзеля, панядзелак.

**Лядовы палац спорту.** Гарадзенская абласная філармонія і Класс-клуб «Джаз Крафт» запрашаюць 1 сакавіка на канцэртную праграму Ларысы Долінай «Пакуль вы ўсе са мной». Удзельнічаюць: група «Скитальцы» і шоу-балет «Джокер». Пачатак у 19.00. Кошты квіткоў ад 12 да 17 тысяч рублёў.

**Палац культуры хімікаў.** 2 сакавіка - канцэрт народнай артысткі Жанны Бічэўскай. У канцэртнай праграме прымае ўдзел кампазітар і спявак Генадзь Панамароў. Арганізатар - Гарадзенская абласная філармонія. Пачатак у 19.00. Кошт квіткоў: 4000, 6000, 8000 і 10000 рублёў.

**Драмтэатр.** 11 сакавіка на Вялікай сцэне ў 12.00 - юбілейны канцэрт гарадзенскай харэаграфічнай студыі «Фолюш-балет». У праграме - танцавальныя фантазіі ў сучасным стылі. Мастацкі кіраўнік - Аляксандр Цебянькоў. Кошт квітка - 320 рублёў.

**Тэатр лялек.** 1 і 2 сакавіка - «Трагедыя аб Магбеце». Пачатак у 19.00. 3 сакавіка - «Васіліса Цудоўная», 4 сакавіка - «Сіндбад-марахол». Пачатак спектакляў - у 12.00.

**Кінатэатр «Чырвоная зорка»** запрашае на самы грандыёзны фільм 2000 года - «Гладыятар».

### Моладзевыя дыскатэкі

**Кінатэатр «Кастрычнік»** - з 22.00 да 01.00, працуе кафэ-бар (серада - нядзеля).

**Палац тэкстыльшчыкаў** - з 20.00 да 24.00 (у пятніцу), з 20.00 да 01.00 (у суботу), з 20.00 да 01.00 (у нядзелю).

**Палац «Юнацтва»** - з 20.00 да 01.00.

**«Калізей-2000».** Начны клуб адчынены з 23.00 да 05.00, акрамя панядзелка - танцавальныя і стрыпціз-шоу. Рэстаран працуе з 12.00 да 05.00.

**Гатэль «Нёман».** Начны клуб-казіно «777». Дзейнічае бар, танцавальнае шоу, казіно. Клуб адчынены з 20.00 да 06.00.

**Начны клуб «Казанова».** Працуе з серады па нядзелю з 22.00 да 05.00. Па суботах - шоу-праграмы.





ПЯРЭСТЫ КУТ

# «Нёман» – першы. Але... сярод беларусаў



**У мінулыя выхадныя дзвюма пераможнымі гульнямі ў Электранаі гарадзенскі «Нёман» скончыў рэгулярны чэмпіянат УЕХЛ.**

«Нёман» атрымаў запланаваныя перамогі над мясцовай «Энергіяй» з лікам 1:5 і 2:8 (у першай гульні шайбы ў «Нёмана» закідвалі Пстыга - 16-я хвіліна, Лісічкін - 20, Галавінаў - 25, Плiскаўскас - 28, Варывончык - 52; у другой: Плiскаўскас - 10, Лантрата - 26 і 30, Жданаў - 29, Варывончык - 44 і 48, Чурабаеў - 52, Пстыга - 53) і заняў другое месца.

Чэмпіёнам у другі раз запар стаў кіеўскі «Беркут», які апярэдзіў «Нёмана» на шэсць ачкоў. У сваю чаргу гарадзенцы абышлі другую кіеўскую каманду «Сокал», які заняў трэці радок, усяго на адно ачко.

Надалей хакеістаў «Нёмана» чакаюць гульні Кубка УЕХЛ, дзе на першым этапе яны згуляюць трэццяга і шостага сакавіка (і калі спатрэбіцца - сёмага сакавіка) з яшчэ адной кіеўскай камандай «Кіеў». Гульні на гэтым этапе пройдуць да дзвюх перамог.

**Выніковая табліца**

| N Каманда | Гульні | Перам. | Нічые | Паразы | Шайбы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 «Беркут» (Кіеў) | 32 | 23 | 5 | 4 | 170-49 | 51 |
| 2 «Нёман» (Гродна) | 32 | 20 | 5 | 7 | 143-71 | 45 |
| 3 «Сокал» (Кіеў) | 32 | 19 | 6 | 7 | 128-73 | 44 |
| 4 «Палімір» (Наваполацк) | 32 | 18 | 3 | 11 | 145-108 | 39 |
| 5 «Металургс» (Ліепая) | 32 | 18 | 3 | 11 | 111-88 | 39 |
| 6 «Менск» (Менск) | 32 | 13 | 5 | 14 | 128-100 | 31 |
| 7 «Рыга» | 32 | 8 | 8 | 16 | 110-117 | 24 |
| 8 «Кіеў» | 32 | 3 | 2 | 27 | 61-224 | 8 |
| 9 «Энергія» (Электранай) | 32 | 2 | 3 | 27 | 73-239 | 7 |

# Вясна пачынаецца з футбола

**Расклад гульняў**

| 10.00 | 11.50 | 13.40 | 15.30 |
|---|---|---|---|
| *1 сакавіка* «БАТЭ» - Беларусь | «Злін» - «Нёман» М. | «Тарпеда» - «Ліда» | «Нёман-Белк.» - «Акадэм-Сл.» |
| *2 сакавіка* «Акадэм-Сл.» - «Злін» | Зб.Беларусі - «Тарпеда» | «Ліда» - «БАТЭ» | «Нёман» М. - «Нёман-Белк.» |
| *3 сакавіка* «Тарпеда» - «БАТЭ» | «Нёман» М. - «Акдэм-Сл.» | «Ліда» - зб.Беларусі | «Нёман-Белк.» - «Злін» |

**Сёння, у першы дзень вясны, у Гродне распачаўся традыцыйны (дзевяты па ліку) футбольны турнір «Кубак машынабудаўнікоў», галоўным спонсарам якога з'яўляецца завод «Белкард». Прыемна, што свае прызы ўсталявалі барысаўскі футбольны клуб «БАТЭ», мінулагодні яго пераможца, і беларускі прафесійны клуб «Волат».**

У турніры прымуць удзел восем камандаў з розных гарадоў Беларусі. Яны будуць размеркаваны на дзве групы па чатыры ў кожнай. Групу «А» складаюць: мясцовы «Нёман-Белкард», «Нёман» Масты, «Злін» Гомель, «Акадэм-Славія» Менск. Групу «Б»: «БАТЭ» Барысаў, ФК «Ліда», «Тарпеда» Жодзіна, зборная Беларусі, якую складаюць футбалісты 1982 года нараджэння і маладзейшыя.

Гульні павінны праходзіць на стадыёне «Юнацтва» ДзЮСШ. На выпадак дрэннага надвор'я іх перанясуць на «рэзінку», што каля Лядовага палаца.

Турнір пройдзе ў два этапы. На першым, з 1-га па 3-е сакавіка, каманды згуляюць у групах між сабою. Па дзве лепшыя дружыны з кожнай групы складуць фінальную чацвёрку, якая і будзе весці барацьбу за першынство на турніры. Каманды, якія зоймуць у групах трэцяе і чацвёртае месцы, утвораць свой квартэт, які размяркуе паміж сабой пятае-восьмае месцы. Гульні на другім этапе адбудуцца (пасля дня адпачынку) 5, 6 сакавіка. Прычым, каманды групы «А» будуць сустракацца з групай «Б».

Турнір скончыцца шостага сакавіка святочным закрыццём, на якім каманды, што занялі на турніры першыя тры месцы, будуць узнагароджаны тэлевізарамі. А пераможца атрымае яшчэ і пераходны Кубак. Адзначацца і лепшых футбалістаў турніру ў кожным амплуа, якія атрымаюць па сокавыціскалцы. У цырымоніі закрыцця возьмуць удзел ужо знаёмыя па мінулых турнірах парашутысты, якія прадэманструюць сваё майстэрства. У неба будзе ўзняты паветраны шар з назваю галоўнага спонсара турніру.

Падчас гэтых спаборніцтваў павінен адбыцца і абласны семінар суддзяў.

**Дзяніс Курчэўскі**

## Пачвары «ўваскрэслі»

**Сёння пасля двухмесячнага перапынку адкрыўся музей тэраталогіі «Катастрофы чалавечага цела» Гарадзенскага медычнага дзяржуніверсітэта.**

Цяпер у музеі плануецца праводзіць платныя лекцыі для ахвотных у групах колькасцю да дзесяці чалавек. Кошт лекцыі на групу - адзін мінімальны заробак. Аплата будзе праводзіцца на квітку (код 0402280179, разліковы рахунак N3622000 000065, ГГМУ у АСБ «Беларусбанк», філіял 409 г.Гродна, код 752). На квітку трэба пазначыць «Платныя лекцыі на кафедры анатоміі».

Гадзіны працы музея: штодня з 9.00 да 18.00, у выходныя - з 10.00 да 15.00. Даведкі па тэл. 72-13-78 альбо 44-66-31.

**Адам Гонар**

ЗДАРЭННІ

# У пажарах загінула пяцёра дзяцей

**За два месяцы 2001 года ў Гарадзенскай вобласці ў пажарах загінула 34 чалавекі, з іх пяцёра дзяцей. Паводле інфармацыі прэс-службы абласнога ўпраўлення Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, гэта найбольшы паказчык за некалькі дзесяткаў апошніх гадоў. За такі ж самы перыяд 2000 года, у вобласці ў пажарах загінула 18 чалавек, пры гэтым сярод загінуўшых не было ніводнага дзіцяці.**

Асноўная колькасць пажараў здараецца з прычыны неасцярожнасці курэння ў нецвярозым стане. Як адзначаюць у прэсслужбе МНС, колькасць пажараў у вобласці рэзка ўзрасла ў сувязі з нечаканымі маразамі, якія абвастрылі яшчэ адну праблему - няправільнае карыстанне пячным ацяпленнем.

**Павал Мажэйка**

ДЗІЦЯЧАЕ АДДЗЯЛЕННЕ

# Каго прынёс бусел?..

**На жаль, у гэтым нумары вы не ўбачыце прыгожых гарадзенскіх немаўлятак. Прычынай таму стаўся грып. Каранцін у радзільным доме не дазволіў зрабіць здымкі гэтых маленькіх цудаў. Але спадзяюся, што эпідэмія хваробы доўга не працягнецца і праз тыдзень-другі фотаздымкі дзетак ізноў з'явяцца на старонках нашай газеты.**

**Сёння ж мы друкуем толькі адзін здымак, які быў зроблены яшчэ да каранціну. Віншуем Святлану і Уладзіміра Федаровічаў з нараджэннем сына!**

**Прыносім прабачэнні бацькам, якія прасілі зрабіць здымкі іх немаўлятаў.**

**Юля Коцкая**



**Сын Святланы і Уладзіміра Федаровічаў. Нар.14.02; 3.250/52**

# Купім заапарку кенгуру!

**Адміністрацыя гарадзенскага заапарка вырашыла набыць аўстралійскага кенгуру. З гэтай мэтаю трэцяга сакавіка ў заапарку адбудзецца акцыя «Наш любімы заапарк». Уваход - бясплатны. Праўда, назваць яго бясплатным можна толькі ўмоўна, бо, каб паглядзець на звяроў, трэба прынесці з сабою на выбар: адзін кілаграм пячэння, або два бананы, ці адзін кілаграм абрыкаў альбо кінуць колькі грошай у скрыньку для ахвяраванняў. У іншым выпадку трэба будзе купляць білет. Усе атрыманыя грошы пойдуць на набыццё кенгуру.**

**Больш падрабязна пра гэтую акцыю, а таксама пра тое, як жывецца заапарку, гутарыць з нашай карэспандэнткай дырэктарка гарадзенскага заапарка Цэліна Пагерыла.**

*- Чаму менавіта кенгуру?*

- Па-першае, такога звера ў нашым заапарку няма, а кенгуру заўсёды выклікае вялікую цікавасць наведвальнікаў. Па-другое, мы знайшлі прыватную фірму па продажы жывёлаў, якая прапанавала нам купіць у іх кенгуру за наяўны разлік. Каштуе кенгуру 400 даляраў. Такіх грошай, тым больш наяўных, у нас няма. Таму і ўзнікла ідэя правесці акцыю «Наш любімы заапарк».

*- Шмат жывёлаў вам трэба набыць яшчэ?*

- Даволі шмат. Няма ў нас, напрыклад, зебраў, тапіраў, пеліканаў ды іншых рэдкіх жывёлаў. Засталіся самотныя такія звяры: нельгау, суматранскі тыгр, леў, улан, фламінга, лань, некаторыя віды птушак.

*- Цэліна Іванаўна, але ж не абавязкова купляць жывёлаў. Можа, варта надаць больш увагі іх развядзенню?*

- Я лічу, што ў нас дзеля гэтага створаны ўсе ўмовы. Тыя ж самыя алені жывуць у нас ужо статкамі. Маем больш за 20 відаў грызуноў. У студзені нават прадавалі насельніцтву скуркі пясцоў, бо звяркоў разгадавалася занадта. А вось з іншымі рэдкімі жывёламі цяжэй. Справа ў тым, што некаторыя з жывёлаў - той жа леў, суматранскі тыгр, фламінга - перасягнулі свой сталы ўзрост. Таму, калі нават закупіць ім пары, даваць патомства яны не будуць.

*- Дзе вы звычайна набываеце жывёлаў?*

- Някепскія сувязі маем з маскоўскім і піцерскім заапаркамі. Зараз, калі дазволяць сродкі, плануем набыць фазанаў у заапарку з Растова-на-Доне. Бываюць неспадзяваныя выпадкі. Вясною 2000 года на берасцейскай мытні затрымалі чатырох вярблюдаў. Іх везлі ў Чэхаславакію. Няшчасныя жывёлы ўжо колькі месяцаў вандравалі па краінах. Яны аслаблі, захварэлі. Паўстала пытанне аб іх знішчэнні. Але ў справу ўмяшалася прэса, тэлебачанне, грамадства... Адзін вярблюд з гэтых чатырох зараз жыве ў нашым заапарку...

*- Цікава, а як харчуюцца вашыя жывёлы?*

- З кормам асаблівых цяжкасцяў няма. Жывёлам, мне здаецца, хапае. Пастаўляюць нам прадукты мясакамбінат і малаказавод. Нядаўна закупілі ў калгаса 40 тон сена, агародніну, садавіну. Адзін толькі слон колькі з'ядае ў дзень: 25 кілаграмаў бульбы, 35 кілаграмаў буракоў, 15 кілаграмаў капусты, 80 кілаграмаў травы! Цяжэй прыходзіцца з памяшканнем і тэхнічным абсталяваннем для жывёлаў: святлом, абагрэвам. Тым не менш, нядаўна адбудавалі жыллё для малпаў, рамантуем тэрарыум, з першага сакавіка пачнем рамантаваць памяшканні для кармовых складоў.

Наогул, да 2004 года плануем перасяліць у новыя «кватэры» ўсіх жывёлаў!

**Размаўляла Алеся Бяленік**

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** З першых вясновых дзён Вы канчаткова пазбавіцеся ад лёгкай зімовай хандры. Вам удасца цалкам аднавіць свае сілы і энергічна ўзяцца за працу.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Скарыстайцеся шанцам палепшыць імідж. Менавіта на гэтым тыдні Ваша спроба заняцца самаўдасканаленнем будзе суперпаспяховай.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Сакавіцкія дзянькі паспрыяюць смеламу наладжванню Вамі новых знаёмстваў. Вы здолееце ажыццявіць самыя зухвальныя ідэі.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Цёплая хваля, дасылаемая сілаю Венеры, змусіць Вас хутка пакінуць зімовы панцыр. Хаця ў ім і было ўтульна, аднак амаль бязрадасна.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Не выключана, што ў першыя дні сакавіка Вы зразумееце, якім чынам варта сябе павесці ў тых ці іншых цяжкіх сітуацыях, каб усе засталіся задаволенымі.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Вясна моцна паўплывае на Вашу свядомасць: Вам можа падацца, што Вы занадта дасканалы чалавек для гэтага свету, поўнага беганіны і мітусні.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** За зіму Вы так сталіліся ад адзіноты, што цяпер гатовы(-ая) ідэалізаваць каханне ва ўсіх яго праявах. Асцерагайцеся памылціца: у кожнага медаля ёсць адваротны бок.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** У першых жа чыслах сакавіка Вы можаце злёгку перааценіць свае магчымасці, таму Вам лепей пазбягаць удзелу ў сур'ёзных мерапрыемствах.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Вы зноў адчуеце ў сабе невычэрпную энергію, што крыху аслабла за доўгія зімовыя месяцы.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Бліжэйшымі днямі будзьце абачлівей у выбары новых партнёрак(-аў). Надзвычай удалыя для спатканняў дні - пятніца і нядзеля.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Вам лепей было б устрымацца ад якіх бы то ні было паездак. Падарожжы пакуль не абяцаюць нічога добрага.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** Вясна - пара кахання, таму не варта саромецца выказваць каханай(-аму) сваю шчырую прыхільнасць і замілаванне.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскім абласным унітарным паліграфічным прадпрыемстве «Гродзенская друкарня» Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4. Нумар падпісаны да друку ў 16.00 28.02.2001 г. Замова 737 Наклад 7 739

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам. Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей